№ 10(155)

# ПАХОДНЯ

Грамадска-палітычная газета

Жнівень 2013 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

Студенческие отряды в Беларуси смогут работать не только летом, но и в течение всего года.

Соответствующие изменения Александр Лукашенко внес в указ от 16 апреля 2012 года №181 "Об организации деятельности студенческих отрядов на территории Республики Беларусь", сообщает пресс-служба президента.

Ранее организация студотрядов была возможна с 1 мая по 30 сентября. Согласно новому указу, зачисление в студенческие отряды с сентября по май будет производиться по согласованию с руководителями учреждений образования по месту учебы студентов.

### У Прыдняпроўі

За прыпіскі ў ходзе ўборкі ўраджаю 8 службовых асобаў сельгасарганізацый Магілёўскай вобласці прыцягнутыя да дысцыплінарнай адказнасці.

### У раёне

Віншаванні з Днём нараджэння даслалі Мікалаю Статкевічу з Бялыніцкага раёна.

12 жніўня свой чарговы Дзень нараджэння адзначыў за кратамі магілёўскай турмы №4 беларускі палітвязень, былы кандыдат на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Мікалай Статкевіч.

Свае віншаванні Мікалаю Статкевічу з Днём нараджэння і ліст са словамі падтрымкі даслалі бялыніцкія актывісты “Гавары праўду” і Партыі БНФ. Актывісты пісалі пра тое, што ўся наша краіна ведае асабістую мужнасць і пасіянарнасць Мікалая Статкевіча, жадалі яму здароўя і вытрымкі, а таксама выказвалі свае спадзяванні на яго хуткае вызваленне.

Мікалай Статкевіч нарадзіўся 12 жніўня 1956 года ў вёсцы Лядна Слуцкага раёна ў сям’і настаўнікаў.

Мікалай Статкевіч быў кандыдатам у прэзідэнты на прэзідэнцкіх выбарах у 2010 годзе.

# УПК В МОЩАНИЦЕ ЗАКРОЮТ

***Мощаницкий межшкольный учебно-производственный комбинат в Белыничском районе закроют в 2013 году. Аналогичная участь ожидает межшкольный учебный комбинат в Шклове, сообщил первый заместитель начальника управления образования Могилевского облисполкома Олег Стельмашок.***




В остальных пяти учебно-производственных комбинатах Могилёвской области в этом году будет приостановлен набор учащихся.

Всего в Могилевской области в 2013 году будут закрыты 23 учреждения образования, еще 12 будут реорганизованы.

Напомним, что учебный комбинат в Мощанице был открыт 10 сентября 1979 года.

За время деятельности учебно-производственного комбината по различным специальностям было подготовлено 3024 учащихся.

В минувшем учебном году в учреждении образования «Мощаницкий учебно-производственный комбинат» обучалось 170 учащихся из 9 школ Белыничского района. Учебный процесс в комбинате осуществляли девять педагогических работников: учителя и мастера производственного обучения.

Также в этом году в Могилевской области закроются все восемь вечерних школ. Вместо них на базе средних школ будут созданы вечерние классы, обучение в которых организуют по типовому учебному плану вечерней школы.

*(Окончание на стр. 6)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ШКЛОЎСКІЯ НАЧАЛЬНІКІ ПАГАРЭЛІ НА ПРЫПІСКАХ

***Прысудам суда Шклоўскага раёна асуджаныя былы дырэктар ААТ «Шклоўскі камбікормавы завод» і былы галоўны інжынер гэтага прадпрыемства за здзяйсненне злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 424 КК (злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі).***

Якраз у мінулым нумары "Паходні" я задаваў пытанне, каго ж з шклоўскіх чыноўнікаў у бліжэйшы час адправяць у турму і выказваў меркаванне, што чакаць гэта шмат часу не давядзецца, бо суседні Шклоўскі раён даўно ўжо вызначаецца высокім узроўнем карупцыі сярод іншых раёнаў Магілёўшчыны.

На жаль, мае меркавані спраўдзіліся ўжо праз тыдзень. Праўда, асуджаныя дырэктар і галоўны інжынер ААТ "Шклоўскі камбікормавы завод" за краты так і не патрапілі, ды і наўрад ці патрапяць, атрымаўшы адтэрміноўку выканання пакарання. Але чаму тут здзіўляцца, каму з спецыялістаў сельскай гаспадаркі Бялыніцкага раёна невядома, якія моцныя "прыхваты" у нашай краіне мае былы дырэктар Шклоўскага камбікормавага М…




Як паведаміла БелаПАН старэйшы памочнік пракурора Магілёўскай вобласці Ала Кузняцова, асуджаныя ў мэтах паказной стабільнай працы прадпрыемства, выканання даведзеных паказчыкаў па вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, на нарадах давалі вусныя незаконныя распараджэнні падначаленым кіраўнікам структурных падраздзяленняў прадпрыемства складаць загадзя падробленыя першасныя дакументы строгай справаздачнасці.

Выконваючы гэтыя ўказанні, службовыя асобы розных структур завода штомесяц з лютага 2009 па студзень 2010 года складалі фіктыўныя справаздачы аб руху хлебапрадуктаў і тары на элеватарах і складах, рапарты аб выпрацоўцы камбікармоў і выкарыстанні сыравіны, патрабаванні-накладныя на выкарыстанне сыравіны, накладныя на водпуск збожжа ў перапрацоўку, якія змяшчаюць недакладную інфармацыю пра колькасць выпрабленай і здадзенай на склад гатовай прадукцыі, пра колькасць збожжа і сыравіны, вылучаваных на выпрацоўку прадукцыі. На падставе гэтых дакументаў налічвалася заработная плата работнікам прадпрыемства і прэміяльная даплата.

У выніку супрацьпраўных дзеянняў былых кіраўнікоў камбікормавага завода прадпрыемству нанесены матэрыяльны ўрон у буйным памеры ў выглядзе залішне налічанай і выплачанай работнікам заработнай платы, прэмій, а таксама залішніх выплат у Фонд сацыяльнай абароны, пенсійны фонд, а таксама ў бюджэт падаходнага падатку.

Суд прызнаў былых кіраўнікоў прадпрыемства вінаватымі ў здзейсненым злачынстве і ў якасці меры пакарання прызначыў кожнаму пазбаўленне волі тэрмінам на два гады з адтэрміноўкай выканання на год, з выплатай штрафу ў памеры 200 базавых велічынь, з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў тэрмінам на пяць гадоў.

Па дадзеных журналістаў "Паходні", зараз следчыя органы расследуюць яшчэ некалькі гучных крымінальных спраў аб шматграннай дзейнасці "слуг народа" на малой радзіме Аляксандра Рыгоравіча ў Шклоўскім раёне.

У бліжэйшых нумарах нашай газеты мы абавязкова распавядзём пра тое, хто з шклоўскіх чыноўнікаў ужо хутка асабіста зможа даведацца пра ўмовы ўтрымання ў беларускіх турмах.

***Сяргей Семяновіч.***

## ВОРУЮТ ВСЁ

10 августа Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) по отношению администрации ОАО «Белыничский райагропромтехснаб» о том, что 9 августа в период с 7-00 до 17-40 в д. Светиловичи с территории МТК путем свободного доступа похищены роллетные ворота стоимостью 3,2 млн руб. ОУР установлено, что преступление совершил несудимый местный житель 1959 г.р. Похищенное изъято. Подозреваемый задержан в порядке ст. 108 УПК, сообщает интернет-сайт УВД Могилёвского облисполкома.

# У "РАДЗІМЕ" СЬВІНЕЙ — ПРАДАЛІ, СЬВІНАРНІК — ЗАЧЫНІЛІ

***На Магілёўшчыне некаторыя сельгаспрадпрыемствы цалкам пазбаўляюцца ад сьвінога пагалоўя.***

Кіраўнікі гаспадарак заяўляюць, што мусяць гэтак рабіць, каб сьвіньні не падхапілі вірус афрыканскай чумы. Таксама наракаюць на дэфіцыт інфармацыі пра эпідэмію, якая ахапіла многія рэгіёны краіны.

Адна з такіх гаспадарак — сельгаспрадпрыемства «Калгас «Радзіма» Бялыніцкага раёну. Пра тое, што мясцовы сьвінарнік застаўся без жывёлы, паведамілі жыхары вёскі Вішоў. Бальшыня вяскоўцаў сваіх сьвіней ужо пабілі.

«Людзі стараліся самі біць, каб не прапала. Білі і семдзесят пяць кіляграмаў, і шэсьцьдзесят — усякіх білі. Такога ж марадэрства, напэўна, не было нідзе, каб прыходзілі нахабна і забіралі ў людзей. Наш калгас тры тысячы галоў распрадаў людзям. Па дзьве тысячы рублёў за кілярам жывой вагі. Гэта ж якія страты калгасу! Я працую ў калгасе, і мне гэтага ўсяго шкада. Гэта ж наш заробак. Пройдзе эпідэмія, і потым мы набудзем зноў сьвіней», — кажа жыхарка Вішова.

У адміністрацыі гаспадаркі не хаваюць, што сьвінарнік у іх ужо пусты.

«Вядома ж, ёсьць страты. Але ж лепей іх цяпер панесьці, чым потым на ўсю гаспадарку ляжа пляміна нейкай хваробы зусім невядомага паходжаньня. Мы ж ня маем дакладнай інфармацыі, што гэта такое, па сёньняшні дзень. Балюча было, прыкра, але мы зрабілі слушна. Мы страцім больш, калі дачакаемся бяды», — кажа супрацоўнік адміністрацыі гаспадаркі.

Высьветліць памер стратаў ад закрыцьця сьвінарніка не ўдалося. Паводле суразмоўніка, усім працаўнікам, якія абслугоўвалі комплекс, у гаспадарцы знайшлі занятак. Заяўляецца, што аднавіць працу сьвінарніка будзе няцяжка:

«Каб разьвесьці сьвіней у той жа колькасьці, тры тысячы галоў, няшмат часу спатрэбіцца. Аціхне ўся гэта гаварыльня — дзе праўда, а дзе няпраўда. Будуць зьнятыя абмежаваньні, і будзем далей працаваць. Людзі ў нас супакоіліся. Некаторыя яшчэ чакаюць, пакуль падрасьце жывёла, каб у двары забіць», — зазначае супрацоўнік адміністрацыі сельгаспрадпрыемства.




Афіцыйных зьвестак пра гаспадаркі, у якіх пазбаўляюцца невялікіх сьвінарнікаў, і пра страты ад такіх захадаў — няма. Эканаміст Пётар Мігурскі такімі лічбамі таксама не валодае. Тым ня менш страты ў айчыннай сьвінагадоўлі ён ацэньвае ў сотні мільёнаў даляраў.

Паводле эканаміста, страты фармуюцца ня толькі з таго, што нішчыцца пагалоўе, якое не дагадавалі да патрэбнай кандыцыі ў 100–120 кіляграмаў, але і з прастою саміх сьвінарнікаў, якія цяжка прыстасаваць пад іншыя гаспадарчыя патрэбы. Што да аднаўленьня пагалоўя, то спадар Мігурскі глядзіць на праблему ня гэтак аптымістычна, як супрацоўнік СПК «Калгас «Радзіма»:

«Гэта ўсё дужа дарага. Калі дзяржава дасьць грошы на аднаўленьне, то гэта іншая сытуацыя. А другое — афрыканская чума сьвіней недастаткова вывучаная. Навукоўцы разводзяць рукамі і раяць лепш ужываць прафіляктычныя захады. У тым ліку — і зьнішчэньне пагалоўя ня толькі ў прыватных гаспадарках, але і на дробнатаварных фэрмах».

На Магілёўшчыне фактаў захворваньня сьвіней афрыканскай чумой ня выяўлена. Бліжэйшы ачаг хваробы — на Віцебшчыне. Зь ёй мяжуюць Круглянскі, Шклоўскі, Горацкі ды Мсьціслаўскі раёны. Пётар Мігурскі кажа, што там дробныя сьвінарнікі павінны былі зачыніць першымі.

Што да здачы сьвініны на мясакамбінаты, якім старшыня аблвыканкаму Пётар Руднік загадаў быць гатовымі да прыёму вялікай яе колькасьці, то насельніцтва асаблівай актыўнасьці не праяўляе. На магілёўскім мясакамбінаце паведамілі, што людзі толькі цікавяцца закупнымі цэнамі. Найбольшая цана тут на сьвініну першай катэгорыі — 16 124 рублі. На мясакамбінаце кажуць, што актыўней пачалі здаваць сьвіней сельгаспрадпрыемствы.

***Радыё "Свабода".***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЯК ПЕРАЎТВАРЫЦЬ РЭПРЭСІЎНЫЯ ОРГАНЫ Ў ПРАВААХОЎНЫЯ

***27 ліпеня 2013 года Сойм Партыі БНФ абмеркаваў і ўхваліў Канцэпцыю мадэрнізацыі судоў і праваахоўных органаў Рэспублікі Беларусь. Гэты дакумент быў падрыхтваны ў межах адной з працоўных групаў папярэдняга этапу Еўрапейскага дыялогу дзеля мадэрнізацыі Беларусі.***

Над дакументам працавалі аўтарытэтныя беларускія эксперты, правазнаўцы, палітолагі, праваабаронцы. Я ўсцешаны, што ў дакуменце ўтрымліваецца шмат тэзаў, пра якія я і Партыя БНФ казалі падчас ранейшых выбарчых кампаніяў. Напрыклад, менавіта ў маёй праграме, як кандыдата ад БНФ, на мінулых прэзідэнцкіх выбарах была адзначана неабходнасць адмены смяротнага пакарання, а адной з галоўных тэзаў была ідэя вяртання да вяршэнства закону праз наданне, менавіта, законам вышэйшай юрыдычнай сілы ў параўнанні з указамі прэзідэнта.



Рэформа праваахоўных органаў была ў фокусе і Народнай праграмы, якая была рэалізаваная Партыяй БНФ і Рухам “За свабоду”. Мы не спынялі гэтую працу і ў перыяд татальных рэпрэсіяў 2011 года, калі менавіта рэпрэсіўная і карная сутнасць беларускіх сілавых структураў выйшла на першы план.

Сойм БНФ падтрымаў Канцэпцыю мадэрнізацыі праваахоўных органаў і судоў зыходзячы з таго, што яна не пярэчыць праграме БНФ і развівае, напаўняе практычным зместам яе прынцыповыя палажэнні. Канцэпцыя будзе ўзята на ўзбраенне сябрамі і прыхільнікамі Партыі для правядзення агітацыйнай дзейнасці ў час далейшых палітычных кампаніяў усіх узроўняў.

У цэлым вяртанне на шлях прававога развіцця краіны немагчыма без дэмантажу існуючай рэпрэсіўнай сістэмы і надання яе органам сапраўды праваахоўнай функцыі.

На дадзены момант як суды так і праваахоўныя органы не валодаюць неабходнай для іх дзейнасці самастойнасцю і знаходзяцца ў моцнай залежнасці ад кіраўніка дзяржавы і падпарадкаваных яму структур. Практычна ўсіх суддзяў, у тым ліку кіраўнікоў судоў, кіруючы склад праваахоўных органаў (пракуратуры, Следчага камітэту, органаў унутраных спраў, спецслужбаў, Міністэрства юстыцыі) прызначае на пасаду і вызваляе ад пасады асабіста прэзідэнт. Фінансавае, матэрыяльна-тэхнічнае і іншае забяспячэнне гэтых органаў ажыццяўляюць структуры прэзідэнцкай улады і падпарадкаваныя ім органы кіравання.

У выніку суды і праваахоўныя органы ў сваёй дзейнасці арыентуюцца не на выкананнне закона і вызначаных законам функцыяў, а на выкананне прэзідэнцкіх актаў і ўказанняў вышэйшых органаў улады.

Давер насельніцтва да судоў і праваахоўных органаў падае. Парадаксальным чынам кадравая палітыка прывяла з аднаго боку да адтоку прафесіяналаў, з іншага боку – да празмерна раздзьмутых штатаў сілавых структураў, кампетэнцыя якіх часам перакрыжоўваецца і нерацыянальна дублюецца.

**Суды.** У мэтах пераадолення карупцыі і залежнасці суддзяў ад выканаўчай улады неабходна перабудаваць тэрытарыяльную судовую сістэму, аддзяліўшы яе ад адміністратыўна-тэрытарыяльнага падзелу. У перспектыве належыць правесці судова-прававую рэформу са змяненнем парадку фармавання судоў і ўвядзеннем у якасці ніжэйшага звяна судовай сістэмы міравых (участковых) суддзяў. Суды, з органаў, якія ажыццяўляюць палітыку выканаўчай улады, павінны стаць незалежнымі арбітрамі ў спрэчках бакоў.

Належыць увесці спецыялізацыю суддзяў па справах з удзелам непаўнагадовых і па адміністратыўных спрэчках, а ў перспектыве — разгледзець пытанне аб стварэнні адпаведных спецыялізаваных судоў. На дадзены момант даўно назрэла неабходнасць увядзення судоў з удзелам прысяжных засядацеляў пры абласных (Мінскім гарадскім) судах і Вярхоўным судзе РБ па справах звязаных са злачынствамі, за якія прадугледжваецца пажыццёвае зняволенне альбо смяротнае пакаранне. Мэтазгодна прадугледзець апеляцыйную форму праверкі прысудаў па крымінальных справах на падставе скаргі абвінавачанага, яго абаронцы, пацярпелага, грамадскага пазоўніка, грамадскага адказніка і іх прадстаўнікоў. Касацыйная форма праверкі судовых пастаноў на

*(Працяг на стар. 5)*

# ЯК ПЕРАЎТВАРЫЦЬ РЭПРЭСІЎНЫЯ ОРГАНЫ Ў ПРАВААХОЎНЫЯ

*(Працяг. Пач. на стар. 4)*

першапачатковым этапе можа быць захаваная.

**Пракуратура.** Наабходна ў першую чаргу пераўтварыць пракуратуру з ваенізаванага ведамства ў цывільнае, скасаваўшы спецыяльныя званні пракурораў. Варта звузіць сферу агульнага нагляду за выкананнем заканадаўства, абмежаваўшы яе праверкамі інфармацыі аб фактах злачынстваў, выключыць з кампетэнцыі органаў пракуратуры права даваць санкцыі на арышт і вытворчасць асобных следчых і аператыўных дзеянняў, перадаўшы гэтае паўнамоцтва у распараджэнне судовай улады. У перспектыве пракуратура з цэнтралізаванай сістэмы органаў павінна стаць дэцэнтралізаванай з абмежаванымі паўнамоцтвамі па нагляду за расследваннем злачынстваў, падтрыманні абвінавачвання ў судах, ажыццяўленні нагляду за выкананнем крымінальных пакаранняў.



**Органы ўнутраных справаў.** МУС і падпарадкаваныя органы ў першую чаргу павінны быць пазбаўлены неўласцівых ім функцыяў, у тым ліку звязаных з палітычным пераследам апанентаў дзеючага рэжыму (які цяпер часта ажыццяўляецца сіламі МУС пры відавочным парушэнні заканадаўства і фальсіфікацыі доказаў). Трэба рэарганізаваць і скараціць у разы ўнутраныя войскі, развіваючы пры гэтым сістэму тэрытарыяльнай абароны. У выніку, органы ўнутраных спраў павінны ўспрымацца грамадскасцю не як рэпрэсіўныя органы, а як праваахоўныя, стаячыя на варце правоў грамадзян і аховы грамадскага парадку.

**Пенітэнцыярная сыстэма.** Дэпартамент выканання пакаранняў разам з канвойнымі і ахоўнымі падраздзяленнямі неабходна перадаць у падпарадкаванне Міністэрству юстыцыі. Як паказвае практыка еўрапейскіх краін, у тым ліку Расіі, гэта дазваляе палепшыць сітуацыю ў сферы выканання крымінальных пакаранняў, звязаных з пазбаўленнем волі. Пры Дэпартаменце выканання пакаранняў і пры кожнай калоніі павінны дзейнічаць грамадскія наглядальныя камісіі, у склад якіх уключыць прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў, што выказалі такое жаданне. Неабходна адмовіцца ад практыкі патрабавання ад асуджаных «абавязацельства аб правапаслухмяных паводзінах» і ўнесці адпаведныя змены ў заканадаўства. Выключыць з Крымінальнага кодэксу артыкул 411 «Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, якая выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі», паколькі гэткія фармулёўкі ствараюць перадумовы для адвольнага асуджэння асоб, што парушылі рэжым адбывання пакарання.

**Дзяржаўная бяспека.** У нашай краіне даўно назрэла неабходнасць скарачэння штатнай колькасці органаў дзяржаўнай бяспекі і пераводу супрацоўнікаў у разрад цывільных служачых, звузіўшы задачы і накірункі дзейнасці органаў КДБ, выключыўшы з практыкі органаў КДБ правядзенне контрразведвальнай дзейнасці ў дачыненні да палітычных партый, грамадскіх актывістаў. Павінны быць усталяваны парламенцкі (грамадскі) кантроль над дзейнасцю органаў дзяржаўнай бяспекі. Добрым іміджавым крокам было б пераіменаванне КДБ, бо ў сучасным свеце сённяшняя назва ўспрымаецца накшталт "гестапа" часоў фашысцкай Германіі.

**Органы юстыцыі.** Неабходна выключыць з ведамаснай сферы Міністэрства юстыцыі ажыццяўленне законапраектнай дзейнасці, паўнамоцтвы, якія дазваляюць яму ўмешвацца ў дзейнасць адвакатаў, права складання пратаколаў і разгляд спраў аб адміністратыўных правапарушэннях, права ўзбуджаць хадайніцтвы аб прыцягненні да дысцыплінарнай адказнасці суддзяў.

На сённяшні дзень у камунікацыі паміж структурамі Еўрапейскага Саюзу і афіцыйным Мінскам не апошняе месца займае пытанне

*(Заканчэнне на стар. 6)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# УПК В МОЩАНИЦЕ ЗАКРОЮТ

*(Оконч. Начало на стр.1)*

По информации журналистов газеты «Паходня», кроме этого чиновники от власти рассматривают вопрос о реорганизации целого ряда сельских школ как в Белыничском в районе, так и в Могилёвской области в целом. Под «реорганизацией» они подразумевают перевод многих сельских школ из средних в базовые. Мол, стране нужны рабочие руки, пускай дети из деревни получают рабочую специальность после девяти классов и начинают трудиться. По логике чиновников от власти, на содержании таких школ можно сэкономить значительные деньги, а их у нас и так на содержание «бедных» чиновников с милиционерами не хватает. Ну а особо одарённые дети могут и в город поездить, если учиться захотят.

Такая логика наших мудрых чиновников меня просто умиляет: оно и правда, зачем деревенским деткам учёба, всё равно в нашем социально ориентированном государстве «хрюкать возле кормушки» и занимать хлебные должности можно только по блату, тем более что их и для родни и любовниц всевозможных начальников не всегда хватает...

По заверениям чиновников, после «оптимизации» учебных заведений педагоги не останутся без работы, им предоставят место в тех учреждениях, куда переведут детей. Специалистам, которые проживали в городе и работали в сельской местности, помогут трудоустроиться по месту жительства или предоставят возможность пройти переобучение и получить новую специальность.

Правда, как раз работать в городе многие наши педагоги и не рвутся. Оно и понятно, за долгие годы напряжённого труда в малокомплектных сельских классах с «недалёкими» деревенскими ребятишками (это не мои слова, уважаемые читатели, это слова одного из наших замечательных педагогов –И. Б.) многие сеятели «разумного, доброго, вечного» просто разучились нормально работать. А в городской школе действительно надо учить детей в полнокомплектном классе, а не просто отбывать «день до вечера», жалуюсь на свою тяжёлую долю, непосильную нагрузку в классе с четырьмя учениками, маленькую зарплату и неразумных детей.

Ну а деревенских детей мне действительно жаль. Взрослые дяди и тёти, многие из которых сами начинали свой путь к вершинам в советское время из деревень и сёл, и которые сейчас находятся при власти в нашей стране, их будущее уже предопределили…

***Иван Борисов.***

# АДМІНІСТРАЦЫЙНАЯ СПРАВА ВАЛЕРЫЯ ВУСІКА БУДЗЕ РАЗГЛЕДЖАНА ПАЎТОРНА

***Старшыня Магілёўскага абласнога суда Ігар Прашко пастанавіў адмяніць рашэнне суда Бялыніцкага раёна ад 29 сакавіка 2013 года і рашэнне Магілёўскага абласнога суда ад 25 красавіка 2013 года, і накіраваць справу на новы разгляд у суд Бялыніцкага раёна да другога суддзі.***

Нагадаем, што 29 сакавіка 2013 года старшыня суда Бялыніцкага раёна Уладзімір Гуз пакараў Валерыя Вусік аштрафам у памеры 30 базавых велічынь за паклёп у адрас старшыні СВК “Лебедзянка” Пятра Бялова і штрафам у памеры 20 базавых велічынь за парушэнне артыкула 17 Закона аб СМІ пры распаўсюдзе газеты “Магілёўскі Выбар”. Па сукупнасці канчатковы памер штрафу вызначаны ў памеры 50 базавых велічынь, што на сённяшні дзень складае 5 мільёнаў рублёў.

25 красавіка ў Магілёўскім абласным судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі Валерыя Вусіка на рашэнне суда Бялыніцкага раёна. Суддзя Магілёўскага абласнога суда Павел Клімаў прыняў рашэнне пакінуць пастанову суда Бялыніцкага раёна без зменаў, а касацыйную скаргу Валерыя Вусіка без задавальнення. Старшыня Магілёўскага абласнога суда Ігар Прашко 1 жніўня пастанавіў адмяніць рашэнне суда Бялыніцкага раёна ад 29 сакавіка 2013 года і рашэнне Магілёўскага абласнога суда ад 25 красавіка 2013 года і накіраваць справу на новы разгляд у суд Бялыніцкага раёна да іншага суддзі. У сваёй пастанове старшыня Магілёўскага абласнога суда робіць выснову, што рашэнне аб пакаранні штрафам Валерыя Вусіка нельга прызнаць абгрунтаваным, таму што падчас разгляду адміністрацыйнай справы ў судзе Бялыніцкага раёна не былі

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# ЯК ПЕРАЎТВАРЫЦЬ РЭПРЭСІЎНЫЯ ОРГАНЫ Ў ПРАВААХОЎНЫЯ

*(Заканч. Пач. на стар. 4-5)*

далейшага развіцця Праграмы Еўрапейскага дыялогу дзеля мадэрнізацыі Беларусі. Мяркуецца, што ўладныя структуры краіны ўсё ж далучацца да працы ў межах гэтага інструмента, які дае некаторыя хоць і сціплыя, але вельмі канкрэтныя магчымасці дзеля развіцця нашай краіны. Мадэрнізацыйны дыялог – гэта адзін са спосабаў вырашэння тых праблемаў, што стаяць перад нашай краінай, якія, сярод іншага, выклікаены недальнабачнай і хібнай палітыкай дзеючага рэжыму.

Было б вялікай памылкай не скарыстацца гэтымі магчымасцямі. Памылкай з боку беларускіх уладаў будзе і спроба звесці дыялог з ЕС да абмеркавання толькі пытанняў па абнаўленні вытворчых фондаў. Мадэрнізацыя – гэта не проста тэхнічная справа, а больш сацыяльная. І прыняццё на ўзбраенне (нават часткова) выкладзенай вышэй канцэпцыі мадэрнізацыі праваахоўнай і судовай сістэмы дазволіць вырашыць структурныя праблемы развіцця нашай краіны.

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ.***

# ЖКГ: ШКЛОЎСКІ ПРАКЛЁН

***Кіраўнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі Шклоўскага райвыканкама на сваёй пасадзе доўга не затрымліваюцца: крыху папрацуюць і трапляюць пад крымінальную справу...***




## Злачынная групоўка

Восем гадоў таму адразу некалькі кіраўнікоў жыллёва-камунальнай гаспадаркі Шклоўскага райвыканкама атрымалі ад чатырох да сямі гадоў пазбаўлення волі. Суд прызнаў, што гэтыя людзі злоўжывалі службовым становішчам і нарошчвалі свой асабісты капітал шляхам крадзяжу дзяржаўнай маёмасці.

Як паведамлялі тады сродкі масавай інфармацыі, дырэктар Шклоўскай ЖКГ Аляксандр Алейнічаў атрымаў сем гадоў пазбаўлення волі, галоўны інжынер Мікалай Федарышкін — чатыры, галоўны бухгалтар Алена Цодава — пяць, майстар Лалаеў — шэсць. Суд прызнаў, што яны дзейнічалі супольна і пад дахам райвыканкама стварылі арганізаваную злачынную групоўку.

“Яны набывалі абсталяванне па цэнах, якія значна перавышалі яго рэальны кошт; розніцу клалі сабе ў кішэню, – пісалі пра гэтую справу ў газетах. – “Умельцы” падраблялі дакументы на абсталяванне, налічвалі так званым мёртвым душам вялікія заробкі, якія потым прысвойвалі”.

## Сляды Кастусёва

Варта адзначыць, што Аляксандр Алейнічаў змяніў у крэсле дырэктара Шклоўскай ЖКГ Рыгора Кастусёва.

Сёння намеснік старшыні Партыі БНФ распавядае, што на яго таксама шукалі кампрамат і нават запрашалі на размовы ў міліцыю, але “прышыць” аказалася няма чаго.

“На мяне збіралі кампрамат, – узгадвае Кастусёў. – У 2004 годзе мяне запрасілі ў абласное ўпраўленне міліцыі. Дарэчы, дагэтуль сорамна, што пайшоў туды без позвы. Мне амаль адразу далі пачытаць адмысловую тэчку з дакументамі, якія нібыта сведчылі супраць мяне. Аднак на першых жа лістах я заўважыў, што подпісы на паперах былі не мае, і, калі зрабіў заўвагу, тэчку забралі і пачалася размова пра справы, без пратакола. Мяне адпусцілі, бо не было чаго прад’явіць”.

Варта адзначыць, што сышоў Кастусёў не таму, што баяўся трапіць у турму. Ён проста не вытрымаў ціску.

“Дырэктар ЖКГ Шклоўскага райвыканкама на той момант быў сябрам Сойма БНФ, старшынёй Шклоўскай арганізацыі БНФ і, зразумела, актыўна ўдзельнічаў у прэзідэнцкай кампаніі. Потым ён шчыра прызнаўся, што не вытрымаў выкліканага шматлікімі праверкамі псіхалагічнага ціску і пакінуў сваю пасаду”, – паведамляла ў 2005 годзе падрабязнасці справы газета “Народная Воля”.

## Адзін за адным...

Рыгор Кастусёў і сёння падтрымлівае зносіны са сваімі былымі калегамі. І збоку назірае за тым, што адбываецца там, дзе ён калісьці працаваў.

“Пасля мяне ўлады паставілі на гэтую пасаду свайго стаўленіка, – распавядае Рыгор Андрэевіч. – Ён за два гады навараціў такіх спраў, што яго знялі з пасады, потым арыштавалі і затрымалі яшчэ некалькі чалавек.

На месца Алейнічава прызначылі новага кіраўніка – былога міліцыянера. Той адпрацаваў прыкладна год і за гэты час таксама ўмудрыўся зрабіць так, што і яго пасадзілі.

Потым знайшлі трэцяга кіраўніка. Аднак і ў яго атрымалася ўсё не слава Богу – яго таксама знялі з пасады. Праўда, да турмы не дайшло.

Цяпер ёсць крымінальная справа на чацвёртага кіраўніка – дырэктара УКП «Жылкамгас» Рыгора Ігнатовіча...

Інфармацыі аб тым, у чым канкрэтна абвінавачваюць апошняга кіраўніка, у мяне няма. Ці быў суд, таксама невядома.

Але ведаю, што пэўны час гэты чыноўнік знаходзіўся ў следчым ізалятары, потым яму змянілі меру стрымання – людзі бачылі яго ў горадзе і нават здзівіліся. Пачаліся размовы аб тым, што, маўляў, адзін больш-менш вядомы чыноўнік, які займаў розныя высокія пасады, даводзіцца яму сваяком, але “ні пацвердзіць, ні абвергнуць гэтую інфармацыю не магу, бо дакладна не ведаю”.

З выразу “праклятая пасада” Рыгор Кастусёў смяецца: “Чорнай магіяй не валодаю!”

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЖКГ: ШКЛОЎСКІ ПРАКЛЁН

*(Заканч. Пачатак на стар. 7)*

## ДАРЭЧЫ

"Тыя, хто адсядзеў, зноў прэтэндуюць на пасаду кіраўнікоў!"

Прыкладна год назад Рыгор Кастусёў накіраваў адкрыты ліст свайму земляку Аляксандру Лукашэнку. Пісаў якраз пра карупцыю на Шклоўшчыне і пра сваіх зменшчыкаў на пасадзе дырэктара мясцовай ЖКГ.

"Я напісаў Аляксандру Лукашэнку адкрыты ліст (быў апублікаваны ў газеце "Магілёўскі выбар" і змешчаны на інтэрнэт-сайце Naviny.by), дзе распавёў аб негатыўных з'явах, якія адбываюцца ў Шклоўскім раёне, - цытаваў Кастусёва сайт незарэгістраванага праваабарончага цэнтра"-Вясна" . – Такое ўражанне, што Шклоўшчыну ахапіла нейкая хваля карупцыйных злачынстваў! Прывяду толькі адзін прыклад. З часу майго звальнення па палітычных матывах з пасады дырэктара Шклоўскага раённага ЖКГ мінула пятнаццаць гадоў. За гэты час на пасадзе кіраўніка Шклоўскага ЖКГ працавалі чатыры чалавекі , усе яны былі звольнены па прычыне злоўжывання службовым становішчам. Двое з іх ужо адсядзелі канкрэтныя турэмныя тэрміны, апошні дырэктар з гэтых чатырох зараз знаходзіцца пад следствам, узбуджана крымінальная справа. І самае цікавае: тыя, хто адсядзеў, зноў прэтэндуюць на пасаду кіраўнікоў! Проста нейкі рассаднік карупцыі атрымліваецца. Пра якую працу па падборы кіруючых кадраў у Шклоўскім раёне можна весці размову?".

Мы пацікавіліся, ці атрымаў палітык нейкі адказ ці хаця б адпіску на сваё пасланне.

"Не!" – разводзіць рукамі Рыгор Андрэевіч.

## АФІЦЫЙНА

Як аказалася, Следчы камітэт яшчэ ў лютым бягучага года перадаў крымінальную справу ў дачыненні да гэтага самага, чацвёртага дырэктара шклоўскага УКП "Жылкамгас" у пракуратуру для накіравання ў суд.




– Чалавек, аб якім ідзе гаворка, выкраў гідраманіпулятар на суму 14 мільёнаў і здзейсніў службовую падробку – склаў пратакол аб пасяджэнні камісіі па правядзенні амартызацыі, – распавялі ў Следчым камітэце. – Гэтым пратаколам ён хацеў скінуць кошт гідраманіпулятара, таму што, груба кажучы, калі б яго цана была 14 мільёнаў, то гэта кваліфікуецца як крадзеж у асабліва буйным памеры, а 10 мільёнаў – ужо буйны памер, адпаведна, зусім іншае пакаранне. Але ў ходзе расследавання справы (а расследаванне пачалося яшчэ ў 2011 годзе) ён кампенсаваў шкоду і падаў прашэнне аб памілаванні на імя прэзідэнта. Рашэння аб памілаванні пакуль няма. Суда па гэтай справе таксама пакуль яшчэ не было. Мера стрымання абвінавачанаму была зменена – ён ужо не знаходзіцца пад вартай.

***Марына МІТ, "Тут і Цяпер".***

### Анекдот дня

*— Девушка, можно с вами познакомиться?*

*— У тебя что, мало разочарований в жизни было?*

*Признак оздоровления отечественной экономики: чиновники начали брать взятки в рублях.*

# АДМІНІСТРАЦЫЙНАЯ СПРАВА ВАЛЕРЫЯ ВУСІКА БУДЗЕ РАЗГЛЕДЖАНА ПАЎТОРНА

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

прынятыя да ўвагі довады Валерыя Вусіка і пры такіх абставінах "вывад аб яго вінаватасці з'яўляецца заўчасным". Таксама Ігар Прашко ўзгадвае ў якасці парушэння ў дзеяннях суда Бялыніцкага раёна тое, што не было задаволена хадатайства Валерыя Вусіка аб прадастаўленні яму абаронцы.

Сам Валерый Дзямідавіч лічыць, што адміністрацыйныя справы супраць яго былі распачатыя толькі з-за таго, што ён агалошваў шматлікія парушэнні з боку адміністрацыі СВК "Лебедзянка", у тым ліку і ў незалежных СМІ.

Па інфармацыі журналістаў газеты "Паходня", паўторны разгляд адміністрацыйнай справы Валерыя Вусіка адбудзецца ў судзе Бялыніцкага раёна 26 жніўня. Судзіць Валерыя Вусіка будзе суддзя Аксана Загорская.

***Багдан Іваноў.***

# РОСТ ЗАРПЛАТЫ В БЕЛАРУСИ ЗАМЕДЛЯЕТСЯ

Увеличение заработной платы в Беларуси в последние год напоминало чудо: зарплата росла без всякой связи с производительности труда. То есть, люди работали, как и раньше, а получали все больше.

Но это чудо заканчивается: на прошедшей неделе заместитель министра финансов Максим Ермолович сообщил, что очередное повышение тарифной ставки первого разряда, которое ожидается в сентябре, учитывая текущее состояние бюджета, не будет значительным.

Более того, он заявил, что существенного роста зарплаты по бюджетному сектору до конца текущего года не будет.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 15.08. 2013 г. у 18-00.